кія ўжо парадкі былі ў Вялейскай турме, якая тады месьціла ў сваіх мурох больш 1000 людзей.

Там, дзе за польскіх часоў саджалі 20 вязьняў, цяпер іх было 60, або й 80. Гэта быў сакавік 1940 году, калі НКВД у "асвабоджанай" Заходняй Беларусі распасьцерла сваё панаваньне над усімі людзьмі і стрыгла іх безапэляцыйна пад сваю машынку, падцягваючы розныя катэгорыі пад адпаведны нумар. Адных забралі ўжо зараз пасьля прыходу й даўно згладзілі са сьвету, як найбольш небясьпечных. Другіх з гэтай катэгорыі трымалі жывымі ў сваіх мучэльнях толькі дзеля таго, што спадзяваліся, павялічыць далейшы лік ахвяр. Трэціх, хоць нічым непавінных, трэба было ізаляваць, бо гэта былі людзі думаючыя — інтэлігэнцыя з асьветай, або мясцовы вясковы ці гарадзкі актыў.

Яны сваім здаровым розумам і разважаньнямі маглі ўплываць на акружэньне й ужо дзеля гэтага іх трэба было ізаляваць. Яны звычайна мусілі пасядзець з год у турме, прайсьці сэрыю допытаў, а пазьней "тройка НКВД" засуджвала іх на павольнае кананьне пры цяжкіх работах у савецкіх лягерох. Да гэтай катэгорыі далучалі таксама ўсіх тых, хто быў на службе цывільнай ці вайсковай пры палякох. Апрача таго трэба-ж было набраць на розныя лягерныя прадпрыемствы і "спецперасяленцаў". Усю тут пералічаную масу людзей мусіла перапусьціць машына савецкай чысткі, гэта была першая перадумова прылучэньня новай краіны да савецкага "раю". Дык нічога дзіўнага, што ўсе турмы былі перапоўненыя да адказу. У камэрах ня толькі ня было месца ўсім дзе легчы, але й сесьці на падлозе ня было дзе, а спаць прыходзілася па чарзе.

Прабываньне ў камэры ў такіх варунках, плюс вельмі благое аджыўляньне, страшэнна падрывалі сілы вязьняў і яны хадзілі як цені. Найгоршым няшчасьцем, аднак, былі допыты, бо яны адбываліся пераважна начамі на працягу цэлых тыдняў з перадышкай ці без яе і то з усімі атрыбутамі савецкіх паліцыйных маральных і фізычных мукаў. Ахвяра забраная на ноч на допыт укідвалася ў камэру чуць жывая над раньнем, як гэта было і з нашым Кастусём.

Ен небарака вадзіў вачамі па ўсіх нас — беларусах, што абкладалі яго мокрымі ручнікамі, каб супакоіць ці палегчыць болі; здавалася, што ён хоча выбраць кагось і сказаць яму нешта вельмі важнае. Грамадка наша складалася з некалькіх чалавек: апрача мяне быў тут старшыная Гуртка

Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры з К., Ціма-фей, два грамадаўцы з мясцовай акругі — Ш. і З., вучань Віленскай тэхнічнай школы С. і малады асьвечаны земляроб А. У нашай камэры было шмат беларусаў, асабліва сялян, але пералічаная тут група месьцілася разам і была най-больш зжытая. Мы чакалі ў напружаньні да каго Кастусь зьвернецца й што скажа. Ужо згаварыліся, каб адыйсьціся на хвіліну, пакінуўшы пры хворым таго, да каго ён мае давер. Але згаворы аказаліся лішнімі. Кастусь яшчэ раз пра-вёў па ўсіх нас вачыма й тады вымавіў ціха, але выразна: "дваццаць пяць"... Мы задумаліся, бо ня ведалі як гэта зра-зумець, што знача гэтых "дваццаць пяць"? Урэшце пачалі пытаць яго што ён праз гэта хоча сказаць. Кастусь ляжаў нярухома з заплюснутымі вачыма, як самлелы, а мы стаялі, са зьдзіўленьнем уляпіўшыся ў яго вачыма. Урэшце, не ад-чыняючы вочы, ён прамовіў зноў: — Я ня дзіўлюся, што вы ня ведаеце, аб што ходзіць, бо ў гэтым пекле можна за-быцца аб усім, асабліва-ж калі ніхто ня сочыць за календа-ром. Як мяне цягнулі з допытаў, на нас наткнуўся зьнаянац-ку з-за вугла калідору студэнт Б. з Вільні з канвоем. Яго зараз-жа адвярнулі да сьцяны тварам, але ён усё-ж пасьпеў сказаць "дваццаць пяць" і я гэта выразна пачуў. Ня гледзя-чы на страшэнную слабасьць і боль, я дагадаўся, што хацеў сказаць студэнт Б. Я пэўны, што й вы дагадаецеся як паду-маеце — .

Фактычна ня трэба было й думаць. Некаторыя з нас і так добра ведалі, што на наступны дзень прыпадае 25 Сака-віка, а тыя, што забыліся, адразу прыпомнілі пры ўспамі-нах аб календары. Непаразуменьне-ж адразу вынікла з тэй прчыны, што нікому і ў галаву ня прышло, што гэты да ня-прытомнасьці скатаваны беларус здольны думаць у такім стане аб 25-м Сакавіку. Таму цяпер, калі ўсім стала ясна аб што ходзіць, на гэтага маладога чалавека пачалі глядзець як на сьвятога, як на нейкі сымбаль. Ён быў амаль памі-раючы, але ў ім сядзеў дух волата! Яго нацыянальнага ідэа-лу ня выбілі з галавы й сэрца ні турма, ні голад, ні катавань-не сталінскіх апрычнікаў. Трэба было дзівіцца, як мог вы-трымаць гэты малы й хударлявы хлапец столькі часу галада-морства й катаваньня. Хіба таму толькі, што ў гэтым выму-чаным целе сядзеў вешчы дух Вялікага Ўсяслава Чарадзея, Скарыны й Кастуся Каліноўскага, ягонага цёскі... І таму ў нашых вачох тады ён адразу вырас да велічы гэроя, мучані-ка за Бацькаўшчыну. І нам стала й балюча, і сумна, і радасна

адначасна, бо здалі сабе справу з таго, што такіх Кастусёў памірае цяпер шмат, шмат — сотні, тысячы... Як жа іх шкода, што паміраюць у муках, замест таго, каб жыць і працаваць для Бацькаўшчыны...

Аднак сэрца радуецца, што паміраюць яны з думкай аб Ёй, аб 25-м Сакавіку. Яны паміраюць, але тыя, што засталіся на волі жывыя, будуць рабіць удвая, як даведаюцца аб іх сьмерці, і за сябе і за іх

**
*

На другі дзень уся наша групка сядзела амаль цэлы дзень каля Кастуся. Ён чуўся значна лепш, усьміхаўся й браў удзел у гутарках. Гутарылі мы паўголасам, дзелячыся ўражаньнем ды ўспамінамі як праводзілася сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў розных мясцовасьцях і асяродзьдзях. Разважалі над тым, чаму Акту 25-га Сакавіка не ўдалося правесьці ў жыцьцё. Ня гледзячы на панурыя абставіны, на душы неяк было весялей, бо ўрачысты дзень прыпамінаў нам, што мы не адны, што зьяўляемся часткай вялікага няўміручага арганізму — цэлага Беларускага Народу.

Наш пагодны настрой дзеіў нейкім флюідам і на цэлую камэру. Дзякуючы нам, усе нашы сяляне-вязьні ведалі аб беларускім нацыянальным сьвяце, хоць падыходзілі да нас толькі некаторыя з іх. Мала таго, паміма нашай волі ведалі аб гэтым і іншанацыянальныя групы: жыдоўская і польская. Неяк нечакана падыйшоў да нас б. рэдактар жыдоўскай газэты Р. і, не называючы ўсё іменьнямі, улучыў сказаць асьцярожненька, што ён ведае што мы, сягоньня перажываем, глыбака нам спачувае й ад душы жадае, каб жаданьні нашы зьдзейсьніліся. Пазьней падыйшоў да нас і паляк — б. віленскі судзьдзя Н., які ў гутарцы вельмі нядвузначна таксама склаў нам свае пажаданьні. Нават не абмінуў нас і заўсёды сымпатычны паручнік рэзэрвіста З. — садавод па фаху, які марыў увесь час аб тым, каб папасьці ў Канаду й спакойна гадаваць добрыя яблыкі. Ён заўсёды гаварыў з намі пабеларуску і, здаецца, больш чуўся беларусам чым паляком.

Не абыйшлося без надзвычайных праяў і вонках нашай камэры. Ужо ў часе ранішняй прагулкі мы заўважылі на сьценах у розных мясцох напісы алаўком лічбу “25” і літару “С”. Пры набліжэньні груп з розных камэраў чуліся словы “дваццаць пяць” зьнячэўку, хоць гэтыя групы адна другую

й ня бачылі. І нічога дзіўнага. Хіба ня было тады такой камэры ў вялікай турме, у якой-бы не сядзелі беларусы. Супраць нашай камэры сядзеў інжынер Б. з некалькімі людзьмі, побач з ім наш стары й заслужаны дзеяч А. Нэканда-Трэпка (ён ужо напэўна ня жыве), праз камэру за ім сядзелі сп. К., У. — і так па ўсей турме. Былі нават і такія, што хацелі праз вакно вывесіць напісаную на паперы вялікую лічбу 25, аднак ім адрадзілі гэта, баючыся якойсь правакацыі й непатрэбных ахвяр. Затое паўтараньне нявінных слоў "25" нікога ня разіла і ня ўзбуджала ніякага падозраньня й кожны беларус чуў яго ў гэты дзень ня раз.

"25" была для нас доўга магічнай лічбай. Яна нас падтрымоўвала на духу, лучыла ўсіх беларусаў у адну сям'ю, прыпамінала аб бязупынным змаганьні, а галоўнае — прыпамінала аб тым, што сядзім мы не прыпадкова.

## БНР ЦІ БССР

У "Голасе Радзімы" № 13 за сакавік 1968 г. быў надрукаваны артыкул А. Пятровіча пад загалоўкам "Праўда аб Акце 25 Сакавіка". Артыкул гэты накіраваны на тое, каб зьбіць з нацыянальна-дзяржаўнай сьведамасьці Беларусаў у вольным сьвеце й зьнеахвоціць іх да сявяткаваньня 50-гадовага юбілею абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

У імя аб'ектыўнай праўды, абапіраючыся на гістарычныя факты, узятыя з розных крыніцаў улучна з бальшавіцкімі, пастараемся бесстаронна разгледзіць падзеі, закранутыя А. Пятровічам.

### 1. Бальшавікі й дзяржаўнасьць нерасейскіх народаў СССР

У сваім артыкуле А. Пятровіч кажа: "Дзякуючы рэвалюцыі й савецкай уладзе Беларусы, як ўсе народы вольнай Расеі, упяршыню за шматгадовую гісторыю атрымалі права й мягчымасьць стварыць сваю нацыянальную дзяржаву..." — Тут ёсць поўнае запрэчаньне гістарычнай праўды. Беларусы, Палякі, Украінцы, Армяне, Грузіны, Татары й Туркестанцы мелі сваю дзяржаўнасьць раней за Расею (Расея пачала называцца так ад Пятра Вялікага, раней-жа была Маскоўскім княствам). У 10-12 стг. Беларусь мела пачатковую дзяржаўнасьць у сваіх княствах Полацкім, Турава-Пінскім і Смаленскім, а ад 13 стг. у Вялікім Княстве Літоўскім. Пад Расею трапіла толькі ў канцы 18 стг., а раней ані з Маскоўшчынай, ані з Расеяй, апрача войнаў, нічога супольнага ня мела. Маскоўшчына, а пазьнейшая Расея зьнішчала дзяржаўнасьць усіх пералічаных вышэй народаў і, забраўшы іхныя землі, стварыла сваю імпэрыю. Бальшавікі нікому не стварылі сувэрэннай дзяржаўнасьці, наадварот, яны зьнішчылі адроджаную ў 1917-18 гадох дзяржаўнасьць забраных Расеяй нерасейскіх народаў і стварылі ім не незалежныя дзяржавы, а фікцыйныя савецкія рэспублікі, падпарадкаваныя Маскве. Яны адрадзілі расейскі імпэрыялізм, узмоцнілі яго й удасканалілі.

Цьверджаньне А. Пятровіча, што пасьля бальшавіцкага перавароту ў кастрычніку 1917 году "...поўным ходам ішла падрыхтоўка да стварэньня Беларускай Савецкай Рэспублікі

— абсалютна нязгоднае з праўдай. Вось што каже актыўны ў тых часох на Беларусі вызначны бальшавік В. Кнорын у сваёй кнізе "1917 г. в Белоруссии и на Западном фронте" (Менск, 1925, бб. 74-75): "...Беларускае пытаньне, дзеля таго, што бальшавікі не ўдзялялі яму належнай увагі, спрычынілася да некаторых нашых прыкрасьцяў. Папершае, перад Саўнаркомам Заходняй Вобласьці паўстала пытаньне аб выдзяленьні беларускіх вайсковых аддзелаў... Падругое перад Саўнаркомам Вобласьці паўстала пытаньне аб 1-ым Усебеларускім зьездзе (Кангрэсе, В. Ж.), скліканым у Менску з дазволам Наркамнаца (Народнага Камісарыяту Нацыянальнасьцяў у Петраградзе, В. Ж.)... Пасьля доўгага змаганьня за рэвалюцыйную бальшыню левай часьціны зьезду, прынятая зьездам рэзалюцыя аб уладзе, усё-ж такі, аказалася нацыянальна-дэмакратычнай, у сапраўднасьці сьціраванай да замены ўлады Саветаў на нацыянальна-дэмакратычную ўладу, створаную зьездам. Дзеля гэтага Саўнарком Вобласьці пастанавіў распусьціць зьезд... На бліжэйшы час роспуск Усебеларускага зьезду спрычыніўся да пераходу беларускай нацыяналістычнай дэмакратыі яўна на бок выразных праціўнікаў савецкай ўлады і да патрыманьня ёю рыхтаваных плянаў, завершаных арганізацыяй ураду Беларускай Народнай Рэспублікі пасьля адступленьня савецкай улады".

Дык не бальшавікі дбалі пра беларускую дзяржаўнасьць, а беларускія народныя масы, дэмакратыя, што выявіла сваю волю на Ўсебеларускім Кангрэсе пастановай ствараэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была абвешчана незалежнай пасьля таго, як бальшавікі на мірнай канфэрэнцыі зь Немцамі ў Берасьці раздавалі беларускія землі нашым суседзям, ігнаруючы волю беларускага народу. Пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі бальшавікі ня мелі ўжо іншага выхаду, як стварыць сваю Савецкую Беларускую Рэспубліку, што яны й зрабілі на цэлы год пазьней.

## 2. Усебеларускі Кангрэс

Скліканы ў сьнежні 1917 г. Ўсебеларускі Кангрэс А. Пятровіч называе контрарэвалюцыйным зборышчам, падабраным "Беларускай Радай", якое, быццам, складалася "...з буржуазных інтэлігэнтаў, **памешчыкаў, фабрыкантаў** (падкрэсьленьне маё, В. Ж.), кулакоў, буйных чыноўнікаў". —

У сапраўднасьці-ж Усебеларускі Кангрэс меў такое вялікае прадстаўніцтва ад усіх пластоў беларускага народу, якога ня меў ніводзін народ з усяе Расейскае імпэрыі, навет ня мела яго й Усерасейскае Ўчрэдзіцельнае Сабраньне. Вось што кажа пра склад Кангрэсу сучасны гісторык БССР Вадзім Круталевіч у артыкуле "Без народнае апоры" (у часапісе "Полымя" № 2, 1967 г., б. 186, 187, 188): "Згодна зь літаратурнымі дадзенымі, у зьезьдзе (Кангрэсе, В. Ж.) удзельнічала 1915 чалавек, зь іх 1175 з рашаючым голасам і 740 з дарадчым... Гэта былі, найбольш, прадстаўнікі валасных, павятовых і губэранскіх земстваў, гарадзкіх самакіраўніцваў, павятовых і губэранскіх зямельных камітэтаў, настаўніцкіх арганізацыяў, саюзаў земскіх і паштова-тэлеграфных служачых, розных нацыяналістычных арганізацыяў. Не пакінуты былі бяз увагі навет дарожныя й бежанскія камітэты... Валасныя й павятовыя земствы, гарадзкія думы, настаўніцкія бежанскія арганізацыі й павятовыя Саветы сялянскіх дэпутатаў пасылаюць па адным дэлегату. Губэранскія харчовыя камітэты і губэранскія сялянскія Саветы — па тры дэлегаты. Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў прапаноўвалася накіраваць на зьезд па адным дэлегату... На зьезд у Менск прыбыло больш за 700 прадстаўнікоў арміі й флёту, г. зн. больш за трэць усіх дэлегатаў з рашаючым голасам. Прадстаўнікі арміі займалі на зьездзе найбольш правыя пазыцыі, патрабуючы неадкладнага абвяшчэньня "незалежнай Беларусі"... На зьезьдзе прысутнічалі, праўда, іх была нязначная колькасьць, прадстаўнікі Саветаў, і сярод іх дэлегаты Віцебскага губэранскага зьезду Саветаў..." Былі на Кангрэсе й беларускія бальшавікі з Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі, якая ўтварылася зь левага крыла Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Петраградзе. "Цэнтральны Камітэт партыі ўхваліў паездку ў Менск 10 сяброў гэтай арганізацыі і матар'яльна падтрымаў яе. Накіраваныя зь Петраграду Беларусы павінны былі дзейнічаць у кантакце з камуністымі Заходяй вобласьці..." — кажа Круталевіч. Ён-жа прыводзіць словы А. Чарвякова (пазьнейшага прэзыдэнта БССР, В. Ж.), паводля якіх "на Кангрэсе была пэўная частка дэлегатаў работнікаў і сялян, настроеная зусім пасавецку, і таму кіраўнікоМ Кангрэсу трэба было прыстасоўвацца й маскаваць савецкай фразэалёгіяй антысавецкія справы".

Характэрна, што, як кажа В. Круталевіч, зьезд не прызнаваў мясцовай бальшавіцкай улады, бо, паводля слоў Кан-

чара, аднаго з арганізатараў Кангрэсу, "Саўнарком Заходняй Вобласьці, утвораны на франтавым зьезьдзе ў Менску (г. зн. на зьезьдзе расейскага войска на Беларусі, В. Ж.), ...і Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў, ня ўдзельнічалі ў выбарах "гэтых камісараў". — Довады В. Круталевіча супраць гэтага цьверджаньня слабыя й непераконлівыя. Зразумела тады, чаму разгон Кангрэсу вайсковай сілай на загад гэтага бясправаўнага органу — Саўнаркому Заходняе Вобласці — выклікаў паўсюднае абурэньне.

Паводля словаў А. Чарвякова ("За Савецкую Беларусь", Менск, 1927, бб. 41-50), удзельнік Кангрэсу, ведамы беларускі сацыялістычны дзеяч А. Бурбіс, так прадстаўляў склад яго: "... На зьезьдзе былі, апрача прадстаўнікоў салдат і матросаў усіх фронтаў і флёту, прадстаўнікі рабочых арганізацыяў, валасных земстваў, гарадоў, чыгуначнікаў, паштова-тэлеграфных служачых, сацыялістычных партыяў ад бальшавікоў да меншавікоў і ад максымалістых да правых с.-р. (эсэраў, В. Ж.), Усерасейскага Савету Сялянскіх дэпутатаў, Савету Рабочых і Сялянскіх дэпутатаў, уцекачоў, каапэратываў, беларускіх сацыялістычных і нацыяналістычных партыяў і арганізацыяў. З прадстаўнікоў кадэцкай партыі й абшарнікаў ня было аніводнага дэпутата, хаця аб прысутнасьці, асабліва абшарнікаў, вельмі часта гавораць. Былі арганізаваныя на зьезьдзе сялянскія зямляцтвы — Менскае, Магілеўскае, Віцебскае, Віленскае, Горадзенскае й Смаленскае..."

З паданых тут цытатаў бачым, якое шырокае й усестароньняе прадстаўніцтва меў Усебеларускі Кангрэс ад усіх пластоў беларускага народу. Не дарма-ж вышэй успомнены В. Кнорын называе Ўсебеларускі Кангрэс "Учредзіцельным Сабраньнем" (Устаноўчым соймам). Адно, на што наракаюць бальшавіцкія аўтары, дык гэта на тое, што Кангрэс не прызнаваў савецкай улады на Беларусі й заміж яе, пастанавіў стварыць Беларускую Дэмакратычную Рэспубліку.

Дадамо да гэтага, што, як відаць з успомненага артыкулу В. Круталевіча, Народны Камісарыят Нацыянальнасьцяў у Петраградзе даў згоду на Ўсебеларускі Кангрэс і навет асыгнаваў на гэту мэту 50.000 рублёў згодна з пастановай Саветаў Народных Камісараў пад старшынствам самога Леніна ("Без нар. апоры", "Полмя № 2, 1967, б. 184-85). Дык Кангрэс быў легальным навет з бальшавіцкага гледзішча.

Чаму-ж тады Ўсебеларускі Кангрэс быў абвешчаны контрарэвалюцыйным і разагнаны быў бальшавіцкай вайсковай

сілай? Адказ на гэта пытаньне дае сам А. Пятровіч: "Нацыяналістыя вырашылі стварыць асобную ад рэвалюцыйнай Расеі "незалежную беларускую дзяржаву..." і — дадае дэмагагічныя словы — "...а ў сапраўднасьці вотчыну беларускіх памешчыкаў і капіталістаў..." (Былі тады памешчыкі, фабрыканты й капіталістыя, што прызнаваліся да беларускасьці? В. Ж.). І далей: "...Выконваючы волю беларускага народу, мясцовыя органы Савецкай улады распусьцілі "кангрэс"... — кажа А. Пятровіч.

Аб якой волі беларускага народу ён гаворыць? Воля беларускага народу была выказана 1915-ма дэлегатамі яго на легальным Кангрэсе ў прыняцьці пастановы аб утварэньні Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі. Якая-ж іншая яшчэ магла быць воля беларускага народу? Мясцовыя органы Савецкай улады, аб якіх гаворыць А. Пятровіч, не маглі мець ніякага дачыненьня да беларускага народу й ягонай волі. Гэта былі чужыя людзі, якія апіраліся на расейскае бальшавіцкае войска, што было тады на Беларусі, і на малыя групкі рознанацыянальных бальшавікоў. Гэтыя ўлады зрабілі вялікае злачынства супраць беларускага народу, разганяючы сілай амаль двутысячны легальны Кангрэс ягоных дэлегатаў. Гэтым тыя бальшавіцкія ўлады сплямілі бальшавізм як рэвалюцыйны рух на ўсе вякі.

А што пазьней розныя бальшавіцкія зьезды сваіх аднадумцаў выносілі рэзалюцыі супраць Усебеларускага Кангресу — дык гэта, з пункту гледжаньня аб'ектыўна-праўнага, ня мае ніякага значэньня, бо: 1. рэзалюцыі гэтыя былі вынесены "постфактум", 2. з бальшавіцкай статыстыкі ведама, што бальшавікі-камуністыя прадстаўлялі нязначную меншыню ў дачыненьні да насельніцтва Беларусі.

**Найважнейшым мамэнтам тут ёсьць той факт, штобальшавікі разагналі Ўсебеларускі Кангрэс, які быў скліканы зь іх згодай і зь іх удзелам, і разагналі яго толькі таму, што Кангрэс гэты, выяўляючы сувэрэнную волю беларускага народу, ня дзеяў па іхняй указцы й ня стаўся бальшавіцкай марыянэткай, а дзеяў самастойна й прыняў рэзалюцыю аб утварэньні Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі — згодна зь інтарэсамі беларускага народу.**

Калі-б Кангрэс пайшоў па бальшавіцкай лініі й прыняў пастанову аб утварэньні бальшавіцкай беларускай дзяржавы — з дыктатурай бальшавіцкай партыі й цэнтральнага ўраду — тады-б напэўна ня быў-бы разагнаны, наадварот,

тады-б гэты Кангрэс бальшавікі хвалілі-б і славілі. **Вось дзе наглядны прыклад у гісторыі, як бальшавікі лічацца з воляй народу й дэмакратыяй! А з другога боку, разганяючы легальны Ўсебеларускі Кангрэс, бальшавікі самі даказалі, што яны ня мелі падтрыманьня й апоры ў беларускім народзе й маглі захапіць уладу на Беларусі толькі сілай...** Гэтай праўды ніяк не схаваеш, не памогуць тут ніякія даўжэзныя артыкулы бальшавіцкіх гісторыкаў і публіцыстых.

## 3. Рада Кангрэсу — Рада БНР

Кангрэс усё-ж пасьпеў выбраць Раду Кангрэсу, якую ўпаўнаважыў усімі паўнамоцтвамі ў вырашэньні справы дзяржаўнасьці Беларусі. Рада гэтая, згодна з вымогамі абставін, ператварылася пазьней у Раду БНР. Выконваючы сумленна паўнамоцтвы Кангрэсу, яна законна абняла ўладу ў Менску ў лютым 1918 г. перад прыходам Немцаў, выкідаючы бальшавікоў. Вось што піша аб гэтым У. Ігнатоўскі ў артыкуле “Вялікі Кастрычнік на Беларусі” ў зборніку “Беларусь” (Менск, 1924, бб. 198-200): “...Абліскамзап (Абласны Іспальніцельны Камітэт Заходняй Обласьці, той, што разагнаў Кангрэс, В. Ж.) уноч на 19 лютага 1918 году пакінуў Менск дзеля таго, што становішча яго стала небясьпечным, дзякуючы ня столькі Немцам, колькі мясцовай апазыцыі. На чале гэтай апазыцыі стаяла Рада Беларускага Зьезду (Кангрэсу, В. Ж.). Ландэр, старшыня Савету Камісараў Заходняй Вобласьці ў сваіх успамінах (“Вперед” 1922, № 1) так малюе падзеі таго часу: “У горадзе пачаўся рух Беларусаў, гатовіўшых выступ проціў нас. На вуліцах пачаліся дробныя сутычкі, чуліся стрэлы. Калі т. Пятроў, камандант Саветаў, вечарам выводзіў мяне з Савету чорным ходам, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, шукаючы мяне й таварышоў. На станцыі нас усялякімі спосабамі стараліся затрымаць, нацкоўваючы на нас рабочых чыгуначнікаў і ўрэшце ўтварылі крушэньне нашага цягніка — два вагоны перавярнуліся, мой зыйшоў з рэек. Гэта рабілася з мэтаю выйграць час да прыходу Немцаў ці Палякаў”.

І далей: “І сапраўды Рада Зьезду выйграла час. 19 лютага Абліскомзапу ў Менску ўжо ня было, а Немцы занялі сталіцу Беларусі толькі 25 лютага. Рада Зьезду скарыстала гэты тыдзень, каб захапіць уладу ў свае рукі. Яна папаўняе свой склад прадстаўнікамі земства, нацыянальных меншасьцяў (Жыдоў, Вялікарусаў, Палякаў і Украінцаў) і абвяшчае

сябе часовым урадам Беларусі. 21 лютага Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду выдае “1-ую Устаўную Грамату да народаў Беларусі”. Зьмест яе такі: “Быўшая ў Беларусі ўлада вышла. Каб ажыцьцявіць права нацыі на самавызначэньне, трэба склікаць на дэмакратычных асновах Устаноўчы Сойм. Выканаўчы Камітэт Зьезду да гэтага часу абвяшчае сябе часоваю ўладаю Беларусі і выканаўчую частку сваёй улады аддае ўтворанаму Камітэтам Народнаму Сакратарыяту Беларусі”. З гэтага часу Народны Сакратарыят прыступіў да выкананьня сваіх абавязкаў”. Дык няпраўда, што Рада Кангрэсу (Рада БНР) атрымала ўладу на Беларусі з ласкі Немцаў, як цьвердзяць бальшавікі.

Народны Сакратарыят Беларусі ня меў такой вялікай вайсковай сілы, каб паўстрымаць нямецкае войска, што акупавала Беларусь. Акупацыя наступіла паміма яго волі. Бальшавікі-ж усімі спосабамі стараліся не дапусьціць да арганізацыі беларускага войска й самі ня мелі сілаў, каб проціставіцца Немцам.

А. Пятровіч, апісваючы нямецкую акупацыю, робіць вінаватымі за ўсе дзеяньні Немцаў Раду й Урад БНР. Тымчасам ведама добра, што пад нямецкай акупацыяй Рада й Урад БНР былі толькі талераванымі, але ня мелі ніякай улады. Немцы ўсімі спосабамі стараліся не дапусьціць да арганізацыі беларускага войска. Яны тасавалі самыя крутыя мерапрыёмствы, каб абяззброіць усіх і змусіць насельніцтва здаць ім усякую зброю.

Ня маючы вайсковай сілы, каб пазбыцца нямецкай акупацыі, Рада й Уряд БНР мусілі зь ёй лічыцца й мець дыпляматычныя зносіны зь нямецкім урадам. Тэлеграма нямецкаму кайзэру, якую так часта вытыкаюць Беларусам бальшавікі дэмагагічным спосабам, была нармольнай зьявай пры дыпляматычных зносінах кажнай дзяржаўнай улады. Бальшавікі рабілі й робяць каркаломныя дыпляматычныя акты, але яны ня любяць аб іх гаварыць. Ведама, што ў паразуменьні зь нямецкім кайзэраўскім урадам Ленін прехаў у заплямбаваным вагоне ў 1917 родзе ў Расею. Ведама, якім каркаломным трыкам быў трактат Рыбэнтроп-Молатаў у 1939 годзе. Шмат было падобных актаў у бальшавікоў. Але яны лічаць, што ім усё можна, а на звычайных рэчах у іншых будуюць сваю дэмагогію. Ня будзем спыняцца на далейшай драбязьлівай дэмагогіі А. Пятровіча, шкада на яе гэтых шпальтаў. Затрымаемся на важнейшым.

## 4. Акт 25 Сакавіка

3-ю Ўстаўную Грамату ( а не "Статутную Грамату", як кажа А. Пятровіч) — Акт 25 Сакавіка — А. Пятровіч галаслоўна называе "...найвялікшым зьдзекам над беларускім народам, вяршыняй здрады яго інтарэсаў". Тым часам, як мы бачылі зь гістарычных крыніц, Рада БНР (Рада Кангрэсу) была выбраная легальным Усебеларускім Кангрэсам, ад якога атрымала паўнамоцтвы сувэрэннасьці беларускага народу й упаўнаважаньні да вырашэньня справы дзяржаўнасьці Беларусі. Дык абвяшчаючы незалежнасьць БНР Актам 25 Сакавіка, Рада БНР ня толькі не зрабіла ніякай здрады беларускага народу, а наадварот — сумленна выканала перад ім свой абавязак.

Але мы добра разумеем А. Пятровіча. Праз ягоны артыкул і словы абурэньня прамаўляе заядлы расейскі імпэрыялізм. У сваім імпэрыялістычным засьляпленьні ён забываецца навет на Ленінскі прынцып самавызначэньня народаў улучна з аддзяленьнем, у правядзеньні якога бальшавікі так старанна дапамагаюць усім народам, за выняткам тых, што знаходзяцца пад іх уладай. А. Пятровіч абураецца, што абвяшчаючы Акт 25 Сакавіка "...нацыяналістыя хацелі, каб Беларусы адмовіліся ад сваіх брацкіх сувязяў з расейскім і іншымі народамі Расеі..." Дык вось у чым злачынства беларускіх нацыяналістых, яны пасьмелі аддзяліцца ад матушкі Расеі! Цяпер справа ясная, адсюль і загарэўся сыры бор. Тут нічым не паможа А. Пятровічу й спасылка на г. зв. Усебеларускі Зьезд Саветаў у лютым 1919 г., які абвесьціў Беларусь Савецкай Рэспублікай у фэдэрацыі з Расеяй і закляйміў "Беларускую Раду" (Раду БНР, В. Ж.), бо зьезд гэты ня быў свабодным волявыяўленьнем беларускага народу, а прыладай тэй-жа імпэрыялістычнай Масквы, якая вайсковай сілай захапіла ўладу на Беларусі й толькі з часткі яе ўтварыла БССР, забіраючы Ўсходнюю Беларусь із Смаленскам сабе, а Заходнюю аддаючы на 20 год Польшчы.

А. Пятровіча зусім ня цікавіць, што маскоўскі бальшавіцкі рэжым і далей шахруэ беларускімі землямі, ігнаруючы волю беларускага народу. У 1939 годзе часткі Віленшчыны разам зь Вільняй, якую бальшавікі называлі сталіцай Заходняй Беларусі, былі далучаны да Літвы, а Беласток з цэлай акругай, у якім у тым-жа 1939 годзе сход народных дэлегатаў па бальшавіцкаму манеру пастанавіў далучыць Заход-

нюю Беларусь разам з Беластокам да БССР — пасьля апошняй вайны быў аддадзены Полшчы.

Толькі Акт 25 Сакавіка, згодна з воляй беларускага народу, выяўленай на Ўсебеларускім Кангрэсе, гарантаваў незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі й нацыянальную ды сацыяльную справядлівасьць жыхаром яе. І хоць Акт гэты быў стаптаны расейскімі бальшавікамі, якія акупавалі тэрыторыю Беларусі, ён застаўся пуцяводнай зоркай беларускай незалежнай дзяржаўнасьці ў сэрцах і сьведамасьці Беларусаў. І таму тыя Беларусы, што не падлягаюць бальшавіцкаму тэрору, зусім слушна штогод сьвяткуюць урачыста ўгодкі гэтага вякілага Акту, не зьвяртаючы ўвагі на тое, ці гэта падабаецца каму, ці не.

# УСТАЎНЫЯ ГРАМАТЫ
# БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## 1-я Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі

Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі.

Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію.

Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму.

Але і да скліканьня Ўстаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць.

Выканаўчы Камітэт Рады першага Ўсебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму на аснове агульнага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам.

Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацьверджаньне заваяваньняў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьневаць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасьля.

Дадзена ў Менску-Беларускім 21 (8) лютага 1918 г.

**Выканаўчы Камітэт Рады**
**Ўсебеларускага Зьезду.**

## 2-я Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабаняе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 15 - 17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і баронячы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэпаблікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважючы на род, народнасьць [1] і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ [2].

5.[3] У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянална-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пілнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы [4], сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць [5] правы і вольнасьці працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Ўстаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай [6] нашай працы.

**Спаўняючы Камітэт Рады 1-га Ўсебеларускага Зьезду.**

Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року.

## 3-я Ўстаўная Грамата Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі сьkінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, сьkідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага траціць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржаваеі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**

Дана ў Менску-Беларускім
24 [7] сакавіка 1918 року.

[1] у Канчара — "национальность".

[2] у Турука — "атвет"; у Канчара — "и перед ею ответственному".

[3] у Канчара ўвесь гэты пункт прапушчаны.

[4] у Канчара — "обязуемся быть на страже закона и порядка в Республике".

[5] у Канчара — "и охранять".

[6] у Турука — "атветнай".

[7] Паседжаньне Рады БНР для прыняцьця пастановы аб незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі было скліканае 24 сакавіка й таму трэйцяя Ўстаўная Грамата датаваная 24 сакавіком 1918 году. Само прыняцьцё канчатковага тэксту трэйцяе граматы адбылося аднак-жа, пасьля ўсяночных абмяркоўваньняў і спрэчак, ужо на сьвітаньні 25 сакавіка. 25 сакавік дзеля гэтага, а ня 24 сакавік быў запраўдным днём абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэпублікі.



Типографія Вильгельма Гартмана въ Берлинѣ SO 16.